# Дняпроўская СТРОМА

№ 9 кастрычнік 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


## Кветкі для Марыны



У чытальнай зале Магілёўскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя К.Маркса 9 кастрычніка 2012 г. для ўсіх дзяўчат і жанчын, якія імянуюцца Марынамі, для ўсіх прыхільнікаў творчасці Марыны Цвятаевай прайшоў літаратурна-музычны вечар *«Букет Марининых стихов»*, прысвечаны 120-годдзя з дня нараджэння вядомай рускай паэткі.

Пранікнёна і кранальна, у камернай абстаноўцы ішоў аповед пра яе жыццёвыя і творчыя шляхі. Лірычным дапаўненнем было чытанне вершаў М. Цвятаевай артыстамі народнага тэатра Палаца культуры вобласці (кіраўнік Ала Кускова). Прысутныя пачулі знакаміты раманс *«Мне нравится»* (муз. М.Тарывярдзіева, верш М.Цвятаевай) у выкананні салісткі Русланы Уласавай. У выкананні народнага канцэртнага ансамбля «Аквілон» студыі класічнай гітары «Рэнесанс» (мастацкі кіраўнік Гары Есялеўскі, музычны кіраўнік Андрэй Гарбаценка) прагучалі «Паланэз» М.Агінскага, «Авэ,Марыя» Д.Качыні ,«Баркарола» Ф. Шуберта.



Гары Есялеўскі, Ала Кускова, Святлана Міхальчук і Ірына Цінякова

У рамках адкрытага мікрафона выступілі член Саюза пісьменнікаў Расіі паэт Леанід Сідараў і магілёўская паэтка Надзея Палубінская.



Гучаць вершы і музыка...

Прыемным сюрпрызам для гледачоў было выступленне паэта і кампазітара, старшыні Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Яцкова, які спецыяльна да гэтай юбілейнай даты выпусціў зборнік *"В огромном городе моём"* з песнямі на вершы М.Цвятаевай і пазнаёміў прысутных з гэтай кнігай. У выкананні Мікалая і Алы Яцковых песні са зборніка і прагучалі на вечарыне.



Спявае Руслана Уласава




Мікалай і Ала Яцковы прэзентуюць зборнік песень на вершы М.Цвятаевай

Гледачам была прапанавана электронная прэзэнтацыя. Была таксама прадстаўлена кніжная выстава *«Душа, не знающая меры...»*, якая адлюстравала вельмі складаныя жыццёвыя і творчыя пуцявіны выдатнай паэткі, імя якой назаўсёды ўвайшло ў рускую і сусветную літаратуру.

**Ірына ЦІНЯКОВА.**

## Міхасю Булавацкаму – 65 !




**Віншуем!**

**11 кастрычніка адзначае сваё 65-годдзе сябра Магілёўскага аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Міхась Булавацкі. Віншуем са святам! Доўгіх дзён і плёну ў творчасці, шаноўны Міхась Пятровіч!**



Булавацкі Міхась Пятровіч нар. 11.10.1947 г. у в. Восы Глускага р-на Магілёўскай вобл. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута, працаваў настаўнікам, выкладчыкам, з 1977 г. выступае як журналіст. У 1988 г. стаў адным з заснавальнікаў магілёўскай філіі аб'яднання "Мартыралог Беларусі", кіраўнік магілёўскай суполкі Беларускага ПЭН-цэнтру. З пачатку 90-х займаецца літаратурнай дзейнасцю, рэдактурай, піша вершы, перакладае з рускай. У 1999 г. выйшла кніга В. Высоцкага "Я не падману" ў перакладзе М. Булавацкага. Эсэ "Ноч свабоды" заняло прызавое месца ў літаратурным конкурсе "Мая свабода", праведзеным радыё "Свабода". Прэсавая служба СБП.

(Працяг на с.2)

## Вестка ад сябра



Днямі мы атрымалі вестку з далёкага Ізраіля ад сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзіміра Майсеевіча Ліўшыца. Ён паведаміў, што да яго звярталіся з прапановай перайсці ў новы Саюз пісьменнікаў Беларусі, але ён адмовіўся гэта рабіць, бо лічыць, што сапраўдны саюз – наш!

З-за хваробы з 2007 года жыве ў ізраільскім горадзе Нацрат Іліт. Пасля інфаркту лекары не рэкамендуюць яму выступаць, але, гэта не перашкаджае Уладзіміру Майсевічу актыўна працаваць. Ён, як і раней, займаецца краязнаўствам, піша па гісторыі Горак і Беларускай сельгасакадэміі. Не пакідае і літаратуразнаўства. Супрацоўнічае з горацкай газетай «Узгорак» і сайтам horki.info. Апублікаваў у Горках і Магілёве чатыры кнігі.

З атрыманага ліста можна даведацца, што і ў зямлі абетаванай віруе пісьменніцкае жыццё – там ёсць літаратурнае аб'яднанне "Галілея". Выходзіць раз на год і часопіс пад гэтай жа назвай. На выданне грошы збіраюць аўтары.

Нашу "Дняпроўскую строму" У.Ліўшыц уважліва прачытаў і адзначыў, што выданне вельмі цікавае. Зрабіў сабе спасылку і будзе чытаць кожны новы нумар у інтэрнеце.



Таксама ён даведаўся, што мы плануем выдаваць літаратурны альманах і адразу прапанаваў туды свой новы артыкул *«Янка Купала і яўрэі»*, над якім сёння працуе, а ў "Строму" матэрыял *«Горацкія сябры Якуба Коласа»* – да 130-годдзя паэта.

Напрыканцы У.Ліўшыц паведаміў, што меў гутарку з прафесарам БДСГА Аляксандрам Віктаравічам Клачковым. Ён доктар тэхнічных навук, але піша і вершы. Аўтар ці не сямі паэтычных зборнікаў на рускай і беларускай мовах. І ён не супраць супрацоўнічаць з нашымі выданнямі. Магчыма, будзе думаць над тым, каб уступіць у шэрагі СБП. Тым больш, што яго вершы ў свой час атрымалі высокую адзнаку Ніла Гілевіча. Алеся Пісьмянкова, Віктара Шніпа і іншых вядомых паэтаў...

Вось такі ліст прыйшоў ад Уладзіміра Майсеевіча Ліўшыца. І мы вельмі рады, што наш зямляк, таленавіты пісьменнік і даследчык гісторыі зноў з намі, хоць і жыве зараз далёка ад родных мясцінаў. Няхай у яго ўсё будзе добра!

### Наша даведка

*ЛІЎШЫЦ Уладзімір Майсеевіч (нар. 1.02.1946 г., Чырвоны Кут) – кандыдат філасофскіх навук, дацэнт, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь, Міжнароднага Саюза пісьменнікаў «Новы сучаснік».*

*З 1972 па 1998 г.г. працаваў асістэнтам, старшым выкладчыкам, дацэнтам кафедраў філасофіі і паліталогіі Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі (БДСГА).*

*З 1998 па 2005 г. – стваральнік і першы дырэктар Горацкага раённага гісторыка-этнаграфічнага музея і на 0,5 стаўкі – дацэнт кафедраў маркетынгу і права БДСГА. З 2005 года – рэдактар часопіса "Веснік БДСГА», прафесар кафедры гісторыі дзяржавы і права БДСГА.*

*У.. М. Ліўшыц – арганізатар і першы старшыня Горацкага раённага культурна-асветніцкага габрэйскага аб'яднання імя Б. Іофэ, гарадской іудзейскай абшчыны.*

*З 2007 года жыве ў Ізраілі ў г.Нацрат Іліт (Верхні Назарэт), займаецца літаратурнай і навуковай працай.*

Падрыхтаваў М.Яцкоў.

№ 9 кастрычнік 2012 г.

# Міхасю Булавацкаму – 65 !



## БІЛЬЯРД ЯК ЧАСТКА ЖЫЦЦЯ

Адным з любімых захапленняў Міхася Булавацкага ёсць гульня на більярдзе. Пачалося гэтае захапленне яшчэ ў студэнцкія гады, але вялікіх поспехаў тады ён не дасягнуў, бо більярд у СССР лічыўся “буржуйскай забавай” і не практыкаваўся як спорт ці нават як разумная форма адпачынку. Зараз на сёмым дзясятку спадар Міхась аднавіў тое захапленне. І ўжо не без поспехаў. Неаднаразовы чэмпіён вобласці сярод ветэранаў, ён часта бярэ ўдзел у рэспубліканскіх ветэранскіх турнірах. На пачатку верасня М.Булавацкі вярнуўся з рэспубліканскай спартакіяды інвалідаў, якая праходзіла ў Брэсце, з сярэбраным медалём (дарэчы, другое месца ён займае на гэтай спартакіядзе ўжо чацвёрты раз)... (Заканчэнне на с.4)

## У МАГІЛЁВЕ АДРАДЖАЮЦЬ БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ БІЛЬЯРДА

13 кастрычніка ў більярдна-спартыўным клубе “Ардэзіт” прайшоў чэмпіянат Магілёўскай вобласці па рускім більярдзе ў намінацыі “піраміда класічная”. Адметнасць гэтага спаборніцтва, па-першае, у тым, што гэта першы такі чэмпіянат не толькі на Магілёўшчыне, але ўвогуле ў Рэспубліцы Беларусь, а па-другое, у тым, што ён быў прысвечаны 65-годдзю сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхася Булавацкага, неаднаразовага чэмпіёна вобласці па “свабоднай пірамідзе”сярод ветэранаў. Распавядае Міхась Булавацкі:

*“Ёсць чатыры віды рускага більярда, прызнаных еўрапейскай федэрацыяй більярднага спорту, па іх могуць праводзіцца афіцыйныя спаборніцтвы. Гэта “піраміда свабодная” (жаргонная назва “амерыканка”), “піраміда камбінаваная” (“маскоўская”), “піраміда дынамічная” (“неўская”) і “піраміда класічная”, якую яшчэ называюць “рускай” або “сібірскай”. Па назве “РУСКІ більярд” і памянутых тут жаргонных назвах яго варыянтаў magically…*

*Калі ў Еўропе пачалі гуляць у гэтую гульню (а гэта не пазней за XVI стагоддзе), слова “рускі” да Вялікага Княства Маскоўскага не мела ніякага дачынення. Таму можна з вялікай імавернасцю меркаваць, што рускі більярд прыдуманы ў краіне, у назве якой было слова “рускі”, – у Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. Напачатку гэта і быў той від більярда, які зараз атрымаў назву “піраміда класічная”, дзе гульня вядзецца пранумараванымі шарамі, пакуль адзін з гульцоў не набярэ 71 ачко. Тым, хто прыязджаў з-за мяжы, цяжка было тлумачыць правілы гульні, таму для такіх выпадкаў і прыдумалі спрошчаны варыянт, дзе нумары не патрэбныя, а трэба было толькі забіць у лузы любыя восем шароў. Назвалі “амерыканка”, бо гулялі з тымі, хто кепска разумеў мову, з “амерыканцамі”.*

*Затым нашу гульню перанялі ў Маскоўскім княстве і прыдумалі свае варыянты. “Піраміда неўская” і “піраміда маскоўская” – гэта сапраўды расійскія варыянты рускага більярда. Цікава, чаму “піраміду класічную” ў Расіі сталі называць “сібірскай”. Калі, дзякуючы вайсковаму таленту Суворава, нашы землі адышлі да Расійскай імперыі, раней вольныя людзі не прымалі прыгнёту расійскага цара і яго паноў. Раз-пораз выбухалі паўстанні ці мясцовыя бунты, якія заканчваліся тым, што вінаватых ссылалі ў Сібір. Але гэта былі не мужыкі кшталту Сценькі Разіна ці Амяльяна Пугачова, гэта былі людзі з высокай адукацыяй, інтэлектуалы, якія і ў Сібіры стварылі вакол сябе пэўную культурную прастору, гулялі ў свае гульні, у тым ліку ў рускі більярд. З Сібіры ён і распаўсюдзіўся ў Расіі. А зараз і ў Расіі, і ў нашай краіне амаль забыты.*

*Калі кіраўнікі клуба “Ардэзіт” вырашылі ўганараваць маім імем чарговы чэмпіянат вобласці, то я прапанаваў варыянт “піраміды класічнай”, як гульні, прыдуманай у нашай краіне. Але ж гэтай гульні ў нас не ведаюць, – запярэчылі мне, – таму будзе вельмі мала ўдзельнікаў. Але я настояў: няхай будзе мала, затое, гэтая гульня з нашай падачы паступова вернецца ў більярдныя клубы. Гульцоў сапраўды сабралася няшмат, але пачатак пакладзены. Адзін з пераможцаў, майстар спорту Алесь Васілеўскі выказаў задавальненне тым, што даведаўся пра новы для яго від рускага більярда (вось! – аказваецца, што і майстры не ведаюць!), прызнаў яго вельмі цікавым і сказаў, што будзе ў далейшым шукаць партнёраў для гэтай гульні.”*

У першынстве ўзялі ўдзел 9 чалавек. Сярод іх спартоўцы, якія неаднаразова перамагалі ў самых высокіх турнірах (майстар спорту А.Васілеўскі, кандыдат у майстры спорту А.Боксер, А.Путнін, В.Бязручанка, Я.Шэйнін, гаспадар клуба “Ардэзіт” А.Сцяпанаў і двое малодых задзіраў А.Казук і Р.Юзыпчук. А таксама юбіляр М.Булавацкі.

У сярэдзіне турнір быў перапынены візітам дэлегацыі Саюза беларускіх пісьменнікаў з удзелам намесніка старшыні СБП Э.Акуліна. Сябры павіншавалі М.Булавацкага з днём народзінаў, уручылі падарункі. Эдуард Акулін таксама павіншаваў з прыёмам у СБП Таццяну Барысік, уручыў ёй пасведчанне і кветкі.

Пасля турнір быў прадоўжаны. Цёплыя словы і сяброўская падтрымка натхнілі М.Булавацкага настолькі, што ён змог перагуляць даволі моцных А.Путніна і В.Бязручанку, шматразовых чэмпіёнаў горада і вобласці, але ў паўфінале прайграў А.Боксеру і заняў III месца. У фінале А.Боксер адолеў вопытнага А.Васілеўскага і заваяваў залаты медаль чэмпіёна вобласці. Пераможцы, акрамя медалёў і грашовых прызоў, атрымалі падарункі ад М.Булавацкага.

(Заканчэнне на с.4)

1 8 2 4 1

13-14 кастрычніка 2012 года

БІЛЬЯРДНА-СПАРТЫЎНЫ КЛУБ “АРДЭЗІТ” праводзіць першы чэмпіянат Магілёўскай вобласці па рускім більярдзе ў намінацыі “ПІРАМІДА КЛАСІЧНАЯ” (71), прысвечаны 65-годдзю неаднаразовага чэмпіёна вобласці сярод ветэранаў Міхася Булавацкага

Пачатак: 11-00
Рэгістрацыя ўдзельнікаў: з 10-30
Унёсак удзельніка: 200 тыс. руб.

### Запрашаем усіх аматараў більярда

Рускі більярд – ПІРАМІДА КЛАСІЧНАЯ (правілы гульні)

У гульні ўдзельнічаюць: адзін біток (каляровы шар без нумара) і 15 прыцэльных шароў, пранумараваных ад 1 да 15 (“1” лічыцца як “11” – “туз”). Калі на полі застаецца толькі адзін прыцэльны шар, то яго намінал павялічваецца на 10.

Такім чынам, у гульні разыгрываецца 140 балаў. У лузы можна забіваць толькі прыцэльныя (пранумараваныя) шары з абавязковым папярэднім заказам.

Калі ў лузу трапляе незаказаны шар, то ён выстаўляецца на заднюю кропку, і гульню працягвае партнёр.

Калі ў лузу трапляе заказаны шар, то ўсе шары, якія пры гэтым удары падаюць у лузы, лічацца правільна забітымі.

Калі ў лузу трапляе біток, то гулец караецца штрафам (-5 балаў з яго і +5 балаў партнёру), а гульню працягвае партнёр ударам з “дому”.

Выйграе той, хто першым набярэ 71 бал. Калі адзін з гульцоў набраў 70 балаў, то яго партнёр для перамогі павінен забіць апошні шар двойчы. Робіцца гэта так: калі ён забівае гэты шар першы раз, то шар выстаўляецца на заднюю кропку, а наступны ўдар выконваецца з “дому” тым гульцом, які выйграе раскат (або пры згодзе абодвух бакоў адпаведна жараб'ёўцы)

Гульня працягваецца да забітага шара або штрафа. Патрабаванні правільнага пачатковага ўдара і наступных удараў (два борта ці борт з перакатам сярэдняй лініі, без пропіха ды іншыя) адпавядаюць агульным правілам рускага більярда. Парушэнні гэтых правілаў караюцца штрафам (гл. вышэй).

На пачатку гульні піраміда выглядае так:

4
5 6
7 15 8
9 14 13 10
2 1 12 11 3

Галоўны суддзя: суддзя I катэгорыі Міхась Булавацкі

---

КНІГАЗБОР

## Таццяна Барысік - у ”Нашай Ніве”

*Прапануем вашай ўвазе апавяданне Т.Барысік “Вянок цыбулі”, якое 24 кастрычніка 2012 г. на сваіх старонках змясціла “Наша Ніва”.*

www.nn.by

№ 39 (780) 24 кастрычніка 2012

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Вянок цыбулі

**Таццяна Барысік.**
Апавяданне.

*Кожны чалавек у сваім жыцці павінен пасадзіць дрэва, пабудаваць дом... (застольная псеўдамудрасць, канец XX стагоддзя).*

Дзень хіліўся да вечара. Пад разлапістаю ігрушай сядзела Адэлька і вязала ў вянкі цыбулю. Цыбулька сёлета не надта ўдалася. Ведама, гарачыня ўсю зямельку ссушыла ды шчэ груша гэтая сокі з гарода цягне, хоць не родзіць амаль. Папраўдзе ніколі не было з дрэва добрай садавіны. Саджанец Адэлька з мужам яшчэ тады, у далёкай маладосці, выкапалі ў садзе местачковага яўрэя. Падмануў местачковец. Ігрушы былі дробныя, каравыя, не ўгрызці, а пасля зусім звяліся. А цяпер мала што не расце нічога, дык і голле два акны засціць, вільгаць ды цвіль не зводзіцца ў хаце. Колькі разоў прасіла ссекчы грушу, але дарэмна. Цяпер ужо няма каму ані пілаваць, ані секчы. Год як няма ў яе мужа, і чацвёрты дзень — сына.




Мужык яе, Ігнат, хварэў. Апошнія тры гады рэдка ўставаў з ложка, ляжаў лежма што п'яны, што цвярозы. Ногі не трымалі, сэрца калацілася, мог, падняўшыся, грымнуцца. А як звалася тая хвароба, Адэлька і не ведала. Доктар з хуткай дапамогі неяк прыязджаў да суседкі, паглядзеў Ігната дый кажа: «Што ж вы хочаце, гады ўжо. Яму б у бальніцу абследавацца...»

Ды хто ж яго ў той бальніцы дагледзець будзе, на чым яго везці? Баяўся тады класціся. Мо і правільна. Не ад хваробы і памёр. Пры жыцці лячыўся нацёркамі на гарэлцы. Часцей у вантробы прымаў, чым націраўся.

А Адэлька цягнула на сабе і хату, і гарод, і яго глядзела. Сын Вова з горада ўцёк, на бацькаўшчыну вярнуўся. Спачатку маці ўзрадавалася: дапамога будзе. Хату на Вову перапісала. А яно вунь як выйшла! Стары грошы з пенсіі прыхавае ды Вову аддасць, а той у краму. Глыкчуць разам пасля, сварацца. І крычала, і прасіла, і страшыла... Ды дзе там!

За дзень да смерці Ігнат аб ганак бразнуўся, ладна пабіўся, гузак на лбе, рука ўся сіняя. А назаўтра, як у горад паехала, напіліся з сынам. Ці атруціўся сурагатам, ці проста перабраў — невядома. Прытэпала адвячоркам з аўтобуса, а ён нежывы. Бабы ж у вёсцы прыдумалі, нібы гэта Вова бацьку да смерці выцяў. Першыя дні, як пачуе Адэлька такую звягу, коршакам кідалася: «Не чапаў Вова бацькі! Таўхануць мог, калі стары пішчом у вочы лез, а біць не біў! Ігнат сам стукнуўся».

Але яе ўпартасць толькі пераконвала вяскоўцаў у праўдзівасці плёткі: «Скуль яна ведае? У горадзе ж была. Надвары моцна крычаў нехта, а чалавек то ці тэлевізар — хто знае? Шыла ў мяшку не ўтоіш».

**Яна ўзяла кавалак, яшчэ не верачы ў тое, што ніхто не адбярэ, не спыніць уладнымі словамі: «Пакінь мне»**



Аднак пагаманілі і забыліся. Мінуў год.

А сынок піў, а тады набраў сабе нечага ў галаву ды ў хляве павесіўся.

«І чаго ж ім не жывецца, га? Божухна... Усё ж ім ашчаджала. Ніколі не паляжала хвілінкі спакойна... І навараны было і прыбрана», — каторы раз падумала Адэлька. А слёз не было. Толькі здранцвенне суцэльнае і туга, што за апошнія гады сталася заўсёднаю бабінай сяброўкай.

— Во паўдуркі гэтыя Манькові чы! Штогод хаваюць, — лапаталі людзі.

— Віна Вову замучыла, што бацьку на той свет адправіў, — папоўз з хаты ў хату працяг даўняй плёткі. Ды Адэлька, скамянелая, учарнелая ад гора, не мела моцы сварыцца, даказваць сваё. Усё перамяшалася ў галаве: мана і праўда, ява і здані. Сын прыходзіў у снах і чамусьці толькі маленькім.

— Маўчыць. Значыць, сказаць няма чаго, — па-свойму адрэагавала вёска.

Адэлька маўчала. Пахавала сына. Сталы зладзіла. А на чацвёрты дзень узялася парадчыць цыбулю, каб рукі заняць працаю. Яна і сама была падобная да той цыбулькі — дробненькая сухенькая бабулька ў выцвілай жоўтай хусцінцы. Адэлькаю нарадзілася, Адэлькаю замуж ішла, Адэлькаю век дажывае. Адальфінай Францаўнай давялося пабыць толькі ў сельсаветаўскіх квітанцыях. Калісьці такое звыклае, а сёння рэдкае яе поўнае імя было непрыдатным для штодзённага існавання. Непрыдатным, як ігруша пад акном. І як зрабілася цяпер непрыдатнаю вялізная — не прапаліць — хата. На халеру ёй адной такі клуб. Праўда, ёсць яшчэ дочкі, Аня з Валяй. Ды толькі Аня замужам, за светам, аж у Сібіры. Зусім хворая: рукі пакруціла. Яна нават на хаўтуры не прыязджала, даслала грошы на вянок. І Валя з райцэнтра не паказваецца: купіла лецішча ля горада. Пасля таго як маці хату на Вову перапісала, сказала: «Раз тут майго нічога няма, дык я сюды не паеду. Насіся са сваім алкаголікам!»

Павязаўшы ўсю цыбулю, старая ўзяла два вянкі і пашкрэбала ў хату, якая пасля смерці Вовы спусцела і здавалася яшчэ большай. А ў астатнім усё было па-ранейшаму: цыгарэтны пах уеўся ў сцены, пад койкаю ляжаў Воваў чаравік з падраным носам.

Пакінуўшы цыбулю на цвіках ля печы, Адэля адчыніла лядоўню і ўбачыла рэштکі вэнджанай каўбасы, што засталіся ад сталоў. Апетыту не было, але раз на падносіку нарэзана — трэба з'есці. «Чым дабру прападаць, дык няхай жывот лопне» — усплыло занатаванае ў памяці прадкаў, задоўга да Адэльчынага з'яўлення на свет. Яна ўзяла кавалак і пачала старанна перацірáць яго аскепкамі зубоў, яшчэ да канца не верачы ў саму магчымасць есці павольна. У тое, што ніхто не адбярэ, не спыніць уладнымі словамі: «Пакінь мне». У тое, што нават не з'едзенае сёння застанецца ляжаць на падносіку, ніхто не кране без дазволу, не вынесе на закуску сабутэльнікам, якія зжаруць усё без меры і разбору. Адэлька з асалодаю прыгадвала смак вэнджаніны, а пачуццё віны нібы існавала незалежна ад яе асобы, пачало дакараць і гнясці нават за гэтае хвіліннае, маленечкае, выпакутаванае задавальненне: «Во, сынок у зямлі сырой, а я жыву і прысмакі ем». Але на гэты раз страўнік узяў верх над розумам.

Акно было расчыненае. На суседавым падворку сядзелі бабы. Пагляддаючы ў бок Адэльчынай хаты, Пракопчыха з Юстынаю гучна засакаталі:

— Дзяцей пагадавала, а адна як бізун засталася.

— Маўчы ты, раз адплакала, затое хоць пад старасць пажыве па-чалавечы. Той жа Вова...

Змучаная Адэлька ўсё яшчэ ласавалася каўбасой ад жалобнага стала. І раптам, нібы старая чарапаха вылузнулася з панцыру, яна на імгненне зрабілася ранейшай Адэлькай, якой была, пакуль туга не ўбілася ёй у таварышкі. Увішная, вострая на язык кабета, якая не цярпела звягі ды абгавораў, выскачыла на ганак ды гаркнула на ўсю вуліцу: «Па сваім паплачце, сарокі дурныя!»

Юстына з Пракопчыхаю аж знямелі ад нечаканага адпору. «Мае, якія ні былі, а па чужых дварах не цягаліся, як каторыя злодзеі ды цюрэмшчыкі», — біла па самым балючым Адэлька. Бо сыны Пракопчыхі, не кажучы пра Юстынінага мужыка-нябожчыка, таксама святыя не былі.

— Мы ж нічога. Мы ж, Адэлька... — урэшце ачомалася Юстына.

Але Адэльцы было ўжо ўсё адно, чарапаха зноў схавалася ў панцыр. Аднекуль усё выразней чуўся бусліны клёкат. Перад адлётам у вырай буслы збіраюцца ў чародкі і разам вандруюць па наваколлі. Белыя і чорныя, усе разам яны ляцелі над вуліцаю ў мяккіх сонечных промнях адвячорку. А ўнізе маленькая сагнутая постаць, ледзь шкрэбаючы, цягнула кудысьці свой апошні вянок цыбулі.

**Адэлькаю нарадзілася, Адэлькаю замуж ішла, Адэлькаю век дажывае. Адальфінай Францаўнай давялося пабыць толькі ў сельсаветаўскіх квітанцыях**



**Таццяна Барысік**
пісьменніца. Жыве ў Магілёве. Працуе настаўніцай.



# НАША ГІСТОРЫЯ



## Іван АНОШКІН

## МАГІЛЁЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

*( Заканчэнне. Пачатак у № 1 - 8 )*

З роднай Магілёўшчыны ў вялікі свет пайшоў вядомы беларускі празаік Леанід Леановіч, паэты Ігар Шклярэўскі, Пятро Прыходзька, Мікола Аўрамчык, Іван Бурсаў, Павел Вераб'ёў, Мікола Янчанка, Ізяслаў Катляроў, Міхась Казакоў, крытык-літаратуразнаўца Дзмітрый Бугаёў і іншыя нашы землякі-пісьменнікі.

Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Магілёўшчыны падтрымлівала творчыя сувязі таксама з пісьменнікамі з Габрава (Балгарыя), Таруньскага і Влацлавецкага ваяводстваў (Польшча), Бранскай (Расія) і Ровенскай (Украіна) абласцей.

Галоўную ж сваю задачу мы бачылі і бачым у выхаванні літаратурнай змены, аказанні не толькі творчай дапамогі, але і ў друкаванні маладых пісьменнікаў. У гэтым добруго службу заслужылі нам калектыўныя зборнікі *«Галасы Прыдняпроўя»* (выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1991 г.), *"Дняпроўскія хвалі"* (Магілёў, 1993 г.) у якіх побач з пісьменнікамі абласнога аддзялення СП былі надрукаваны творы і некалькіх дзесяткаў аўтараў — членаў літаб'яднанняў Магілёва і вобласці.

Воісь радкі эканаміста Іны Шчагловай:

*Край крыштальных крыніц*
*І жытнёвых палёў,*
*Гаманлівых бароў*
*І азёр сінявокіх,*
*Беларусь, Беларусь,*
*Кожны раз я ізноў*
*Да тваіх прыпадаю вытокаў.*
*Не стамлюся спяваць*
*Табе песні свае,*
*Твая мова мне роднаю стала,*
*І ў сэрцы гучаць*
*Зразумелыя мне*
*Словы Коласа,*
*Словы Купалы.*

Найбольш мяне ўразіла тое, што Іна нарадзілася не на беларускай зямлі, а ў далёкім Мурманску. Калі сям'я пераехала сюды, Іна пайшла тут у школу, палюбіла нашу беларускую мову і, як піша ў вершы, гэтая мова ёй роднаю стала.

Дарэчы, некаторыя вершы членаў літаб'яднанняў загучалі песнямі. А каб песень, добрых твораў было больш, варта адкрываць і падтрымліваць маладыя таленты. Каб нанова, як і раней, узнялі ў высокія нябёсы неўміручыя радкі: *«Прыдняпроўе маё, Прыдняпроўе, пералескі, крыніцы, лугі...»*



# Міхасю Булавацкаму – 65 !

## БІЛЬЯРД ЯК ЧАСТКА ЖЫЦЦЯ

*(Заканчэнне. Пачатак на с.2)*



– Што для вас більярд? – запыталіся мы.

– Па-першае, гэта адпачынак. Бо сядзенне за камп'ютарам ці сядзенне з вучнем за сталом – гэта ўсё ж сядзенне, якое трэба перамяжаць нейкай рухомай дзейнасцю. А ў простым гулянні па вуліцы я не бачу сэнсу, таму яно мяне не вабіць. Па-другое, гэта спорт, прычым спорт самы дэмакратычны: спаборнічаць на роўных могуць і школьнік, і пенсіянер. А для людзей сталага ўзросту гэта самы адпаведны від спорту, ён не патрабуе рэзкіх рухаў, але ўсё ж патрабуе і цвёрдай рукі, і зоркага вока, і вытрымкі, і пэўных псіхічных якасцяў. Усё гэта, вытрэніраванае за більярдным сталом, спатрэбіцца і ў іншай дзейнасці чалавека. Па-трэцяе, гэта спосаб знаёмства з новымі людзьмі, спосаб пашырэння эмацыйнага поля чалавека. Більярд – задавальненне не таннае, таму ў більярдныя клубы заглядваюць людзі, у якіх бываюць лішнія сродкі. Мне цікавая гэтая генерацыя новай беларускай буржуазіі, якая толькі нараджаецца.

– Вы, пенсіянер, дзе знаходзіце сродкі займацца більярдам?

– Я не толькі пенсіянер. Я яшчэ індывідуальны прадпрымальнік у галіне матэматычнай адукацыі. Мае паслугі школьнікам, абітурыентам істотна дапамагаюць ім, бо я маю вялікі досвед такой працы, таму карыстаюцца попытам. Гэтая праца прыносіць мне і задавальненне, і, натуральна ж, заробак. Дарэчы, невялікі заробак я маю і ад більярда, бо я – пакуль адзіны ў Магілёве суддзя па більярдзе і мне даводзіцца судзіць розныя спаборніцтвы не толькі на абласным узроўні, але й вышэй.

Мы зычым нашаму сябру новых поспехаў у більярдзе. І не толькі ў ім.

*Падрыхтаваў*
*Кастусь ШАШКІН.*

*Міхась БУЛАВАЦКІ*

## О ПЕРВИЧНОСТИ КОЛБАСЫ

*(Сынкам Беларусі,*
*якія на пачатку нашага змагання*
*за незалежнасць усё пыталіся:*
*"А что, эта мова*
*нам колбасы добавит, что ли?")*

Расла, квітнела і спявала,
Прыгожа, весела жыла.
Душы сваёй не замыкала,
Чужых ласункаў не жадала,
Да ўсіх спагадлівай была.

На свята знойдзе зоркі-краскі,
Да сэрца ў горы прыхіне,
Суцешыць боль сваёю ласкай,
Дзіця пацешыць байкай-казкай,
Старога песняй не міне.

І не цуралася павагі
Людзей сумленных пры зямлі...
Ды што там лёсу тыя сагі!
Свае ён мае шалі-вагі,
Свае ганяе караблі.

Вось так і тут: прыйшлі няўзгоды –
Да брата трапіла ў палон.
Цярпела здзекі год за годам,
Ды не зракалася народа,
Імя чыё ўзяла спакон.

Мінула тое ліхалецце.
Даў Бог да лепшага дажыць!
Але знядужала. А ўрэшце
І сонца хворым кепска свеціць...
"Сыночак мой, дапамажы!

Схадзі ў лякарню, купіш лекаў –
Палёў гаючую расу...
Я акрыяю... Не калека ж!.."
Сынок задумліва прамэкаў:
*"А хватит мне на колбасу?"*

Уздыхнула. Болей ані слова
Не мовіла. Стаіла сум...
Пад бел-чырвона-белым сховам
Хварэе ціха Маці-мова...
*Сын уминает колбасу.*



*Эдуард Акулін уручае падарунак Міхасю Булавацкаму*



*Таццяне Барысік уручаецца пасведчанне сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў*



**2 кастрычніка свой дзень нараджэння адзначае сябра Магілёўскага аддзялення СБП, пісьменнік і журналіст Анатоль Казіміравіч САНАЦЕНКА. Віншуем!**



*"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"*
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *25.10.2012 г.. 21.00.*
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.